

# НавінЫ БНФ

**нумар 6 (84)**
15 ліпеня 2005 г.

## У нумары:





Грунвальдзкая бітва. Гравюра XVI стагоддзя

Сёньня — дакладна 595 гадоў, як нашыя продкі здабылі гістарычную перамогу пад Грунвальдам. Гэтая перамога над крыжацкім войскам — адна з найбольш гераічных і слаўных старонак нашае гісторыі. Цяперашняя ўлада вырывае такія старонкі з афіцыйных кнігаў, каб сьцерці памяць пра іх. Бо да гэтых перамогаў немагчыма "прымазацца". Гэта як ў N.R.M.: не было Грунвальду, не было Сапегі, не было БНР. Не было Скарыны. Той, каму да спадобы новыя шыльды "праспект Незалежнасці" ў Менску, хай не забываецца на чырвона-зялёны сьцяг і партрэт прэзыдэнта. Гэты праспэкт — яго, Лукашэнкавай, незалежнасьці. Ад нас усіх, нашай гісторыі, ад Грунвальда ды Скарыны. Хутка, магчыма, так афіцыйна й назаве: "Незалежнасьці Першага Прэзыдэнта" ці проста "Праспэкт Першага Прэзыдэнта". Таму давай це не забывацца: незалежнасьць — не пусты гук. Як і Грунвальд, ў легендарнай бойцы пад якім мы яе адстаялі.

**Рэдакцыя**

## ПЕРШАЯ АСОБА



КагадзеБеларусь,асаблівa сталіца, была скалынутая чарадою афіцыйных сьвяткаваньняў, якія пачасту нагадвалі шабас. Натоўп з залітымі вачыма шчаміўся на відовішчы — салют або канцэрт нізкапробнае папсы. Маіх бацькоў, што мелі няшчасьце праходзіць міма, гэтыя "дзікі" ледзь не растапталі, а амонаўскія дубаломы яшчэ й пазьдзекваліся зь іх.

Так фармуюць новае пакаленьне лукашыстаў. Старэйшыя — дасюль галоўнае апірышча клікі — неўнікнёна пакідаюць гэты сьвет. Іх трэба тэрмінова замяняць, надзейна прамыўшы мазгі новаму пакаленьню. Тупы статак, прагны танных відовішчаў пад таннае пітво, — вось ідэал для іх.

У чалавечай істоце патрыятызм, як любоў да свайго й сваіх, закладзены іманэнтна. Кліка зразумела, што колькі яго ні зьнішчай — адраджаецца. Таму пачынаецца гульня ў пустышку, калі слова гаворыцца, а зьмест выпустошваецца. Патрыятызм атаесамляецца зь лаяльнасьцю да клікі, нацыянальнае — зь дзяржаўным. У іх ужо хапае нахабства называць чырвона-зялёна-капусьцяны набор, якога карані ў лепшым выпадку сягаюць позьняга Сталіна, — "нацыянальнаю сымболікай". Нацыянальнымі й беларускімі ня маюць права звацца іншыя структуры, акрамя дзяржаўных, — тае дзяржавы, што ўсё сапраўды беларускае й нацыянальнае нішчыць.

Немалая частка моладзі на гэта "вядзецца". Бачым чырвона-зялёных маладзёнаў на футболе, а ў парках ходзяць тых жа колераў піянэры ў аднолькавых дадзеных куртках і з аплочанымі абанэмэнтамі на атракцыёны.

Але ёсьць іншая моладзь, якая адчувае прыцягальную моц сапраўднае беларушчыны. Яна, як умее, гуртуецца. Пакутліва пазбываецца стэрэатыпаў, як аказалася, магутных (пішуць жа падлеткі патрыятычныя вершы, але з агаворкаю "вы не падумайце, што я нейкі бээнэфавец"!). Ці бюлетэнь новастворанага маладзёвага выданьня, дзе выкладаюцца наступныя думкі: "Малады фронт", БРСМ і г.д. — палітычныя арганізацыі, а вось мы вам прапануем у якасьці альтэрнатывы стромае непалітычнае згуртаваньне... Так аўтары абяззбройваюць чытача сьвежай схемай падзелу маладзёвага сьвету.

Вось чаму нам, фронтаўцам, няможна змарнаваць гэтую хвалю новага — стыхійнага — адраджэньня. У кожным паселішчы, у кожнай навучальнай установе ёсьць нацыянальна й палітычна сьведамыя маладыя людзі. Творчыя, інтэлектуальныя, асьветніцкія маладзёвыя гурты фармуюцца самі сабой. Іх трэба ўведаць, навязаць даверлівы дыялёг, чым можна дапамагчы. Гэтыя людзі — будучыня ня толькі Фронту, але й Беларусі.

**Вінцук Вячорка**

# Пачатак свайго сцэнару



**Аляксей ЯНУКЕВІЧ, намесьнік старшыні Партыі БНФ**

Сёньня, праз месяц пасьля пачатку рэгіянальных сходаў па вылучэньні дэлегатаў на Кангрэс Дэмакратычных Сілаў, неаспрэчным ёсьць вельмі важны факт — кампанія па вылучэньні дэлегатаў на Кангрэс ад раёнаў адбылася. Ужо прайшлі 43 сходы, 37 зь іх адпавядаюць усім неадходным патрабаваньням, гэта значыць, ужо вядомыя прозьвішчы 74 дэлегатаў КДС ад раёнаў. Працэс ідзе — насуперак скептычным прагнозам некаторых удзельнікаў, пераадольваюцца арганізацыйныя цяжкасьці ды ўнутраныя супярэчнасьці.

Тое, што сходы ў раёнах рэальна адбываюцца — ужо хоць і невялікая, але сапраўдная перамога дэмакратычных сілаў. Магчыма, гэта і ёсьць найбольш істотным вынікам нашае з Вамі працы цягам апошняга месяцу. Ад самага пачатку ўлады імкнуліся сарваць нашыя пляны, перашкодзіць правядзеньню сходаў любымі сродкамі. Пачалі ад банальнага арышту арганізатараў — Віктара Раманішкі й Вадзіма Болбаса ў Сьветлагорску. Сход адбыўся. Затым пачалі дзейнічаць больш хітра — праводзілі "манэўры пажарнікаў" у Маладэчне. Людзі перайшлі ў загадзя падрыхтаванае рэзэрвовае месца — і сход адбыўся. У Жодзіне шукалі разьлітую ртуць, у Мазыры арганізавалі правакацыю з бойкай — але вынік для ўладаў быў нулявы. Ці, нават, адмоўны — гэтыя недарэчныя дзеяньні ўладаў пачалі разбураць ілюзію татальнага кантролю рэжыму над сытуацыяй і дэманстраваць няздольнасьць вэртыкалі спыніць працэс. І ўлады адступілі.

Натуральна, гэта толькі пачатак, толькі першы крок, але гэты крок — сапраўдны, зроблены насуперак жаданьням улады **па нашым уласным сцэнары.**

Падставы для аптымізму, ды нават для пэўнага задавальненьня ёсьць. Тым болей, што большая частка вылучаных на гэты момант дэлегатаў Кангрэсу прадстаўляе Партыю БНФ да партнэрскія арганізацыі. Але ёсьць і нагода для ацэнкі ўласных дзеяньняў ды выяўленьня тых накірункаў працы, што патрабуюць удасканаленьня.

Першае — трэба палепшыць камунікацыю паміж нашымі рэгіянальнымі кіраўнікамі з аднаго боку, і Цэнтральнай Сядзібай Партыі, штабам Аляксандра Мілінкевіча ды Аргкамітэтам Кангрэсу — зь іншага. Каб пазьбегнуць эфэкту "сапсаванага тэлефону", каб пра ўсе праблемныя сытуацыі мы ў Менску даведваліся як мага хутчэй, пакуль ёсьць магчымасьць і час вырашыць праблему.

Другое — нашым людзям у рэгіёнах, перадусім — кіраўнікам арганізацыяў, трэба дзейнічаць ініцыятыўна. Не чакаць, што нехта зробіць за нас. Ня зробіць. А калі й зробіць — дык па-свойму.

Трэцяе — прыцягненьне грамадзкіх арганізацыяў да арганізацыі й правядзеньня сходаў, там дзе такія арганізацыі ёсьць. На іх нельга забывацца.

Нарэшце, чацьвёртае — збор кворуму там, дзе ёсьць толькі нашая Партыя. Часам так здараецца, што няма здаровага духу спаборніцтва, і гэта расслабляе. А гэтага пры арганізацыі сходу дапускаць нельга. Калі ёсьць толькі мы — значыць, мы нясем адказнасьць за ўсе дэмакратычныя сілы, і павінныя забясьпечыць належнае правядзеньне сходу.

# Дыяспара баіцца

**16 і 17 ліпеня ў Менску адбудзецца Чацьверты зьезд беларусаў сьвету. Тэма зьезду гучыць так: "Беларусь для дыяспары — дыяспара для Беларусі. Шляхі да кансалідацыі і разьвіцьця нацыі". Плянуецца, што на зьезд зьбяруцца прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў і грамадзкія дзеячы з 25 краінаў сьвету.**

**Першапачаткова плянавалася, што агульная колькасьць дэлегатаў і гасьцей зьезду складзе каля 400 асобаў. Але, хутчэй за ўсё, колькасьць прысутных будзе ўдвая меней. Каля 100 прадстаўнікоў беларускае дыяспары з дваццаці пяці краінаў сьвету пацьвердзілі свой намер узяць удзел у працы зьезду. Столькі ж будзе й беларусаў зь Беларусі. Зьезд пройдзе ў памяшканьні Міжнароднага адукацыйнага цэнтру (IBB).**

**На пытаньні "Навінаў" адказвае старшыня Рады МГА "Згуртаваньне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" Алена МАКОЎСКАЯ.**

**— Чаму колькасьць удзельнікаў зьезду будзе меней, чым плянавалася ад пачатку?**

— Бо існуе комплекс праблемаў. Мы насамрэч вылучылі 190 удзельнікаў зь Беларусі, і столькі ж — з замежжа. І шмат хто зь іх прыедзе. Прыкладам, доктар гісторыі, пісьменьнік, грамадзкі дзеяч, Янка Запруднік, дырэктар Беларускага інстытуту навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку, навуковец, Вітаўт Кіпель. Але прыедуць ня ўсе. У некаторых краінах існуе вялікі разрыў паміж старэйшым і малодшым пакаленьнем эміграцыі. Больш гэтыя праблемы характэрны для эўрапейскіх краінаў. Старэйшаму пакаленьню пад 80, і яны ўжо не рызыкуюць ехаць у такое ня блізкае падарожжа. А прадстаўнікі найноўшай эміграцыйнай хвалі, нягледзячы на тое, што каму-некаму ўжо далі грамадзянства тых краінаў, дзе яны жывуць, маюць яшчэ й беларускія пашпарты. А паколькі ў нас забаронена падвоенае грамадзянства, яны баяцца, што іх папросту ня выпусьцяць з краіны. Увогуле, дыяспара баіцца...



**— У першую чаргу чаго?**

— Так проста й не сказаць. Людзі баяцца атмасфэры страху што пануе на Радзіме, баяцца за сваіх сваякоў, якія жывуць у Беларусі. Людзі па-рознаму ўспрымаюць сытуацыю ў нашай краіне. Але ўсё ж бальшыня запрошаных будуць удзельнічаць у працы зьезду, значыць, яны не баяцца нічога. Але ўнутрыпалітычная сытуацыя тут ёсьць перашкодай прыезду шмат каго з запрошаных дэлегатаў. Беларусы блізкага і далёкага замежжа валодаюць велізарным культурным, навуковым і эканамічным патэнцыялам. Аднак маючы і магчымасьці, і жаданьне, яны ня могуць пакуль стаць дзейсным фактарам разьвіцьця Беларусі, паколькі дыяспара і Беларусь не маюць рэальнага ўзаемадзеяньня. Нягледзячы на тое, што ад часу правядзеньня Першага зьезда беларусаў сьвету прайшло 12 гадоў, у Беларусі няма адзінай дзяржаўнай палітыкі ў дачыненьні да дыяспары. У школьных падручніках няма інфармацыі пра беларускіх дзеячоў замежжа, пра асяродкі беларускай дыяспары ў сьвеце.

**— Якія асноўныя тэмы будуць абмеркаваныя на зьездзе?**

— Плянуецца абмеркаваць шэраг пытаньняў, зьвязаных з культурным і эканамічным супрацоўніцтвам арганізацыяў беларускага замежжа з радзімай, прыняцьце канструктыўных рашэньняў, па якіх немажліва працаваць без узаемадзеяньня зь дзяржаўнымі структурамі. Аднак, на жаль, хутчэй за ўсё іх на зьездзе ня будзе. На пачатку году мы даслалі лісты ў нашыя міністэрствы інфармацыі, адукацыі, культуры. Мы іх прасілі выказаць свае прапановы, якія б яны хацелі, тэмы — каб абмеркаваліся на зьезьдзе, бо мы ўсё ж спадзяемся, што зьезд пройдзе канструктыўна і будуць выпрацаваныя нейкія рашэньні. Але, на жаль, мы не атрымалі ніводнага адказу.

**Даведка.** Сёньня па-за межамі Беларусі ў 73-х краінах сьвету пражывае каля 3,5 мільёна беларусаў, што складае трэцюю частку ўсёй нацыі. Беларускія арганізацыі актыўна дзейнічаюць у Азэрбайджане, Аўстраліі, Аўстрыі, Бэльгіі, Вялікай Брытаніі, Нямеччыне, ЗША, Казахстане, Канадзе, Кыргыстане, Гішпаніі, Латвіі, Літве, Малдове, Польшчы, Расеі, Узбэкістане, Украіне, Францыі, Чэхіі, Швэцыі, Эстоніі. Беларускія арганізацыі, цэрквы, бібліятэкі, культурныя цэнтры, газэты сталіся асяродкамі грамадзкага й культурнага жыцьця беларусаў замежжа, зьбіраючы пад сваім дахам прадстаўнікоў розных пакаленьняў і хваляў эміграцыі.

# Усё толькі пачынаецца:

## няўрадавыя арганізацыі гатовыя да ўдзелу ў будучай палітычнай кампаніі

**Юры ЧАВУСАЎ**



Чым бліжэй час абвяшчэньня кампаніі па выбарах прэзыдэнта, тым гучней у колах грамадзкіх актывістаў гучыць тэма ўдзелу няўрадавых арганізацыяў у працы дэмакратычных сілаў у гэтай кампаніі. Пытаньне пра супрацоўніцтва паміж НДА і палітычнымі партыямі ўздымаецца падчас пасяджэньняў плянава-аналітычнай групы аб'яднаных дэмакратычных сілаў, падчас раённых сходаў, падчас разнастайных форумаў грамадзкіх арганізацыяў. Гэтай тэме быў прысьвечаны шэраг сустрэчаў паміж кіраўнікамі палітычных партыяў "дзясяткі" і прадстаўнікамі шэрагу ўплывовых НДА.

Падчас дыскусіяў непазьбежна выяўляюцца перасьцярогі, якія турбуюць грамадзкіх актывістаў: А ці не паўторыцца ганебная здача "нашага" кандыдата? Ці будуць стасункі НДА і палітычных партыяў шчырымі і празрыстымі? Ці ня будуць выкарыстоўваць грамадзкіх актывістаў у якасьці "гарматнага мяса"? З гэткіх сумненьняў вынікаюць пэўныя непаразуменьні, якія шкодзяць адзінству ў дэмакратычным лягеры й адмоўна ўплываюць на працэс плянаваньня будучай стратэгіі. Гэтая дыскусія прывяла да фармаваньня некалькіх падыходаў да праблемы.

Так, сярод некаторых прадстаўнікоў палітычных партыяў і прадстаўнікоў тых групаў, што ў бліжэйшы час афармяцца ў якасьці камандаў прэтэндэнтаў на ролю адзінага кандыдата ад дэмакратычнай апазыцыі, распаўсюджаная думка пра несамастойны і непалітычны характар беларускіх НДА. Так, часьцяком кажуць пра тое, што большасьць НДА схільныя ўстрымлівацца ад актыўных палітычных дзеяньняў у межах будучай кампаніі. Маўляў, для гэтых арганізацыяў больш важна не псаваць адносінаў з уладамі, яны не настроеныя на перамогу і ня вераць у яе, і з-за гэтага ўхіляюцца ад актыўнай палітычнай барацьбы, "хаваючыся" у межах сваёй місіі. Зрэшты, гэткае перакананьне ў пэўным сэнсе слушнае. Сапраўды, пэўнае кола няўрадавых арганізацыяў непазьбежна асуджанае на калябарацыю з рэжымам з-за ягонай жорсткасьці і агульнай абстаноўкі ў краіне — нехта ж павінны рабіць і чыста грамадзкую, непалітычную справу ня зглядзячы ні на што. Таму, кажуць некаторыя палітыкі, абапірацца трэба выключна на партыйныя структуры і іх актывістаў, а таксама на тыя арганізацыі (збольшага незарэгістраваныя), якія ўжо выразна акцэнтавалі свае палітычныя мэты.

Зь іншага боку, сярод актывістаў "трэцяга сэктару" паўстала памкненьне наўпрост далучыцца да палітычнай дзейнасьці. Некаторыя арганізацыі заявілі пра намер самастойна ісьці да выбаршчыкаў з уласнай праграмай сацыяльна-палітычных зьменаў, пакінуўшы палітычныя партыі на "ўскрайку гісторыі". Маўляў, партыйныя структуры ўжо неаднойчы дэманстравалі сваю няздольнасьць да дасягненьня перамогі, яны збанкрутаваныя.

Зразумела, намаляваныя пазыцыі — гэта крайнасьці. Але менавіта гучнае выказваньне гэткіх экстрэмальных пазыцыяў, якія не грунтуюцца на рацыянальных довадах, а заснаваныя выключна на прыватных амбіцыях і крыўдах, наносіць вялікую шкоду і тармозяць працэс падрыхтоўкі да наступнай палітычнай кампаніі.

Сярод прадстаўленых кропак гледжаньня вылучаецца сваёй памяркоўнасьцю пазыцыя прэтэндэнта на ролю адзінага кандыдата Алеся Мілінкевіча, падтрыманага Партыяй БНФ. Гэтая асоба валодае бясспрэчным аўтарытэтам сярод дэмакратычнага сэгмэнту трэцяга сэктару. Ён даказаў свае здольнасьці да каардынацыі намаганьняў рэгіянальных НДА падчас мінулых кампаніяў і ў вялікай ступені абапіраецца менавіта на рэсурсы няўрадавых ініцыятываў.

Пазыцыя каманды Алеся Мілінкевіча ўлічвае інтарэсы няўрадавых арганізацыяў ды імкнецца да заахвочваньня іх удзелу ў будучай палітычнай кампаніі. У межах пляну дзеяньняў прадугледжваецца правядзеньне мабілізацыйнай і матывацыйнай кампаніі, якая будзе істотна адрозьнівацца ад кампаніі 2001 году. З-за таго, што фактычна ў Беларусі ўсялякая магчымасьць зьмяніць палітычную сытуацыю шляхам выбараў страчаная, гэтая кампанія ня будзе накіраваная на заахвочваньне людзей прыйсьці да выбарчых скрыняў, як гэта было раней — і гэта пасьпяхова робіць рэжым. Задачы новай мабілізацыйнай кампаніі будуць у агульнай актывізацыі той часткі грамадзтва, якая незадаволеная існым ладам рэчаў (а гэта, згодна з сацыялягічнымі апытаньнямі траўня-2005, больш за траціну беларусаў). Стаўка будзе зробленая на грамадзкае абуджэньне дзеля абароны ўласных правоў грамадзянаў, якія і так незадаволеныя рэжымам. У адрозьненьне ад мінулых кампаніяў, сёньня ў грамадзтве адчуваецца дух пераменаў. Таму сёньня лінія падзелу ў грамадзтве палягае ўжо не паміж прыхільнікамі і праціўнікамі Лукашэнкі з велізарным (і схільным да падтрымкі мацнейшага) "балотам" пасярэдзіне. Сёньня асноўнымі групамі ў грамадзтве ёсьць тыя, хто задаволеныя існым ладам, і тыя, хто адчувае незадаволенасьць існуючай сыстэмаю. Менавіта актывізацыя апошняй групы і стварэньне сацыяльнай базы для распаўсюду вобраза будучыні без Лукашэнкі павінныя стаць задачай для грамадзкіх аб'яднаньняў.

# ПАЛЯВАНЬНЕ




**Юры ГЕМБІЦКІ**

Позьнім вечарам у суботу ў хату да старшыні Менскай гарадзкой арганізацыі Партыі БНФ Уладзімера Кішкурны ў Смаргаўскім праезьдзе ламіліся больш за 10 чалавек. Гэта былі супрацоўнікі Цэнтральнага РУУС Менску, а таксама невядомыя ў цывільным. Адначасова невядомыя таксама пабывалі ў хаце на вуліцы Беламорскай, якую здымаў малодшы сын Кішкурны Антон зь сяброўкай. Антон не адчыніў нязваным гасьцям бацькаву хату. Але "госьці" выбілі вокны й дзьверы. Яны заявілі, што зробяць "агляд памяшканьняў", але замест гэтага цягам усёй ночы рабілі ператрус хаты ды ўсіх гаспадарчых пабудоваў, зламалі ўсе ўнутраныя замкі. Знайшлі тры патроны (адзін — стары, да вінтоўкі, якімі карысталіся яшчэ напрыканцы 19 стагодзьдзя, ды два — да пісталета Макарава, зь іх адзін сапсаваны. Як яны ў хату патрапілі, ніхто ня ведае). Таксама "знайшлі" шмат папераў ды друкарскі станок, які стаяў у хляве. Дык да панядзелка паставілі ля хлява варту, бо ня здолелі той станок вынесьці. А ў панядзелак разабралі на часткі, і толькі тады вывезьлі нібыта для правядзеньня экспэртызы. Немаведама адкуль зьявіліся таксама два з паловай грамы наркатычнага рэчыва. Але ў хаце Ўладзімера Кішкурны іх не знаходзілі. Мабыць, на Беламорскай? Дык там увогуле нікога не было ў момант візыту невядомых "прадстаўнікоў улады". Значыць, гэтыя грамы маглі падкінуць. Хто? Невядома, але Антон Кішкурна зь сяброўкай, прыходзячы дахаты, некалькі разоў заўважалі, што ў іх адсутнасьць у доме нехта быў. Думалі, што гэта гаспадар хаты...

Зараз абсалютна зразумела, што за домам вялося назіраньне. Антон тры тыдні таму атрымаў дыплём, зьбіраўся паступаць ва ўнівэрсытэт. І, натуральна, ніякім продажам наркотыкаў не займаўся. Тым ня менш, зараз ён знаходзіцца ў РУУС Цэнтральнага раёну. У аўторак яму было прад'яўленае абвінавачаньне ў распаўсюдзе наркотыкаў (артыкул 328 Крымінальнага кодэксу), а таксама ў захоўваньні незарэгістраваных боезапасаў (артыкул 295, частка 2). У першым выпадку вядзецца пра тое, што нейкі Павал Кудзін, затрыманы спэцыялістамі аддзелу па барацьбе з наркотыкамі, распавёў, што прадаўцом дозы быў Антон Кішкурна. Хто ён такі, Антон ня ведае. Яго паказаньняў ані сам Антон, ані адвакат Аляксандар Галіеў пакуль не пабачылі. У якасьці "боезапасаў" жа фігуруюць тыя самыя тры патроны. Сяброўка Антона Кішкурны дае ў міліцыі паказаньні ў якасьці сьведкі. Прычым тут друкарскі станок і навошта было яго забіраць — пытаньне рытарычнае. Аднак у нядзелю ўвечары БТ і АНТ паказваюць фільм пра напад на хату Кішкурны, распавядаючы пра кілаграм наркаты, пнэўматычныя вінтоўкі, антыдзяржаўныя ўлёткі, шпрыцы, ксэраксы ды яшчэ бог ведае якую халеру.

"Гэта — палітычная замова", — заявіў Уладзімер Кішкурна "Навінам". — "Нічога Антон не ўжываў і, натуральна, ніякімі наркотыкамі не гандляваў. Адкуль узяліся тыя патроны, я таксама не разумею. Хочуць нас прадставіць крымінальнікамі, прымусіць апраўдвацца — не атрымаецца. Я ні ад кога не хаваюся, дадому прыходжу. Хаджу па вуліцах. Хай выклікаюць, задаюць пытаньні. Гэта ж трэба было — адсачыць, калі нас з жонкай у хаце ня будзе, і ўламіцца туды".

Дарэчы, сам Уладзімер Кішкурна павінны быў вярнуцца ў Менск зь Мядзелу позна ўвечары ў суботу. Але ў яго зламалася машына. Таму ён вярнуўся толькі ранкам у нядзелю. Яго жонка Валянціна затрымалася ў хворай маці ў Слуцку, хоць таксама плянавала быць у хаце ўвечары ў суботу. А кіраўнік праваабарончага цэнтру "Вясна" Алесь Бяляцкі прыбыў на месца падзеяў тэрмінова, але яго ў хату Ул. Кішкурны не дапусьцілі аўтматнікі.

Падсумуем. За распаўсюд наркотыкаў, дарэчы, прадугледжанае вельмі сур'ёзнае пакараньне — ад 5 да 8 год пазбаўленьня волі. За захаваньне наркотыкаў і зброі — меншыя тэрміны, але таксама тэрміны. Нягледзячы ні на што, мы спадзяемся, што гэтыя абвінавачваньні з Антона Кішкурны будуць зьнятыя. Зрэшты, Антон ужо сядзеў за ўдзел ў масавых мерапрыемствах. У час аднаго з затрыманьняў яму нават зламалі руку.

Старшыня Партыі БНФ Вінцук Вячорка адзначыў, што ўлады распачалі паляваньне на аднаго з самых ахвярных і сьмелых актывістаў Партыі БНФ. "Атака рыхтавалася, за хатай сачылі, бо ў той жа дзень тэлебачаньне паказала фільм, зьняты яўна не апаратыўнымі камэрамі. Час атакі быў разьлічаны, не было ані гаспадара, ані гаспадыні. Гэты ўзброены напад — сьведчаньне пераходу лукашэнкаўскай дыктатуры ў наступную стадыю. Мяркую, мы яшчэ пачуем пра збройныя арсэналы ды наркотыкі, хаця нічога, апроч слова праўды, мы не выкарыстоўваем у барацьбе з уладнаю клікаю".

# Рэгіянальныя кааліцыі

**Ад сярэдзіны чэрвеня па краіне ідуць раённыя сходы дэмакратычнай грамадзкасьці па вылучэньні дэлегатаў на Кангрэс дэмакратычных сілаў. Сам кангрэс заплянаваны на канец верасьня. Сёньня на старонках "Навінаў" пра посьпехі ды хібы гэтага вельмі важнага працэсу развважаюць кіраўнікі абласных структураў Партыі БНФ, якія адказваюць за арганізацыю сходаў у сваіх абласьцях.**

**Сяргей МАЛЬЧЫК, старшыня Гарадзенскай абласной арганізацыі Партыі БНФ:**

— Улада, як ня дзіўна, вялікіх перашкодаў нам пакуль ня робіць. Карысна ды зладжана працуе абласная "пяцерка". Яе каардынатарамі зьяўляюцца Віктар Сазонаў, Анатоль Іванчык, Уладзімер Чырвоненка ды я. Мы сустракаемся штотыдзень, раімся на конт далейшых агульных плянаў і супольных кааліцыйных дзеяньняў. Пасьпяхова раённыя сходы прайшлі ў трох гарадох — Сьвіслачы, Мастах і Ашмянах. У Дзятлаве ды Шчучыне не хапіла кворуму. Гэта зьвязана найперш з тым, што людзі пабойваюцца "сьвяціць" сабе, нягледзячы на тое, што мясцовая вэртыкаль пільна адсочвала ўсе нашыя рухі хіба толькі ў Дзятлаве. Увогуле ж я лічу, што галоўная мэта раённых сходаў — ня толькі, і, нават, ня столькі абраць дзьвюх дэлегатаў на кангрэс дэмакратычных сілаў, а фармаваць гэтыя самыя сілы зьнізу, закласьці асновы будучай супольнай каманды. Да нас ўжо далучыліся паплечнікі сп. Статкевіча, будуць і новыя людзі. У гэтым кантэксьце сходы выконваюць вельмі істотную задачу — закласьці асновы паразуменьня розных палітычных плыняў на месцах. 30 ліпеня фактычна гэты працэс на Гарадзеншчыне фінішуе, але найбольш праблемныя чатыры населеных пункта мы перанесьлі на пачатак жніўня — гэта Зэльвенскі, Бераставіцкі, Карэліцкі ды Іў'еўскі раёны.

**Сяргей САЛАШ, намесьнік старшыні Менскай абласной арганізацыі Партыі БНФ:**

— Як вядома, працэс вылучэньня дэлегатаў Нацыянальнага кангрэсу дэмакратычных сілаў Беларусі на раённых сходах распачаўся 15 чэрвеня. Працэдура вылучэньняў адбываецца таксама і ў Менскай вобласьці. На сёньняшні момант вылучэньні адбыліся ў Барысаве, Барысаўскім раёне, Маладэчне, Вілейцы, Жодзіне й Смалявічах. Раённы сход у Мядзелы быў па тэхнічных прычынах перанесены. Ад гэтых раённых сходаў мандаты дэлегатаў атрымалі чатыры прадстаўнікі Партыі БНФ, па два прадстаўнікі ад АГП, Маладога Фронту, прадпрымальніцкага зьвязу "Пэрспэктыва", адзін прадстаўнік Партыі працы й беспартыйны, які сымпатызуе нашай Партыі.

Варта падкрэсьліць, што сходы адбываюцца бяз унутраных канфліктаў, годна й паводле зацьверджанай працэдуры. У пэўных мясцовасьцях адбываецца шчырая й адкрытая канкурэнцыя, у іншых — найбольш уплывовыя дэмакратычныя сілы дамаўляюцца пра падзел дэлегацкіх месцаў.

Праўда, час ад часу пры правядзеньні сходаў мясцовымі ўладамі ствараліся пэўныя праблемы. Найбольш яскравыя выпадкі былі зафіксаваныя ў Маладзечна й Жодзіне, дзе перашкодзіць дэмакратамі спрабавалі міліцыя разам з пажарнікамі. Аднак да нічога падобныя намаганьні не прыводзілі — сходы былі праведзеныя, а дэлегаты вылучаныя.

Таму я маю спадзеў, што да сярэдзіны жніўня дэмакратычная Меншчына цалкам вызначыцца з сваімі дэлегатамі, а там, нарэшце, і з канчатковай датай Кангрэсу. А далей пачнецца самае цікавае — доўгачаканая праца на адзінага кандыдата сярод насельніцтва.

**Юрась ГУБАРЭВІЧ, старшыня Берасьцейскай абласной арганізацыі Партыі БНФ:**

— У Берасьцейскай вобласьці адбылося да гэтага часу 3 сходы — у Маларыце, Камянцы й Пружанах. Заплянаваны сход у Жабінцы не сабраў неабходную колькасьць удзельнікаў і адбудзецца пазьней. Усе раёны, дзе ўжо прайшлі сходы — складаныя, традыцыйна яны не вылучаюцца вялікай палітычнай актыўнасьцю. З гэтым зьвязаныя й тыя працэдурныя праблемы, што ўзьніклі ў Маларыце й Камянцы: некалькі ўдзельнікаў, з-за доўгіх перапынкаў у працы сходаў, не дачакаліся моманту галасаваньня й сышлі. У выніку — зарэгістравалася дастатковая колькасьць удзельнікаў, а прагаласавала меней за патрэбны кворум. Я лічу, што аргкамітэт мусіць шукаць шляхі й дамаўляцца, каб гэтыя сходы былі ўсё ж прызнаныя. Другі раз людзі на такі самы сход не зьбяруцца, а шмат хто можа нават пакрыўдзіцца, калі дэлегатаў ад раёну ня будзе на Кангрэсе Дэмакратычных Сілаў.

Улады, вядома, пільна сачылі за правядзеньнем сходаў, але прыемна, што зь міліцыяй праблемаў не было.

Па выніках сходаў, што ўжо адбыліся, можна зрабіць наступныя высновы: папершае, добра, калі ў раёне ёсьць прадстаўнікі розных палітычных партыяў, бо тады прысутнічае момант спаборніцтва ды, адпаведна, мабілізацыі. Горай — калі толькі адна партыя прысутнічае, гэта цягне за сабой застой. Па-другое — удзельнікі сходаў галасуюць перадусім за тых, хто сапраўды мае аўтарытэт у раёне, тут усе адзін аднаго ведаюць. І не заўсёды той, хто мае большасьць, аўтаматычна забірае абодва мандаты на Кангрэс. Напрыклад, у Камянцы моладзь мела пераважную большасьць, але адным з дэлегатаў Кангрэсу абраны прадстаўнік ПКБ, паважаная ў раёне асоба. Ацэньваю гэта як станоўчы момант кампаніі па вылучэньні Адзінага.

Наперадзе — мясцовасьці значна больш актыўныя: Берасьце, Пінск, Баранавічы, Бярозаўскі, Івацэвіцкі, Ганцавіцкі раёны. Перакананы, там удзельнікаў на кожным сходзе будзе багата, і атмасфэра будзе значна больш дынамічная.

# дзейнічаюць плённа

**Канстанцін СМОЛІКАЎ, старшыня Віцебскай абласной арганізацыі Партыі БНФ:**

— Па старой показцы, калі пэсыміст казаў: " Усё так дрэнна...", на што аптыміст адказваў: "Не, будзе яшчэ горш...". Аналізуючы становішча па падрыхтоўцы і першыя вынікі правядзеньня раённых сходаў па вылучэньні кандыдатаў на Кангрэс дэмакратычных сілаў ад Віцебскай вобласьці ня ведаю, да якай катэгорыі сябе аднесьці. З аднаго боку, тыя раёны, дзе даўно існуюць мясцовыя кааліцыі палітычных партыяў і грамадзкіх арганізацыяў, добра падрыхтаваныя да правядзеньня такіх сходаў. Гэта буйныя гарады, Верхнядзьвінск, Глыбокае, Шаркаўшчына, Сянно і некаторыя іншыя. Тыя ж раёны, дзе існуюць толькі структуры адной партыі ці наагул няма партыйных актывістаў, паказваюць, што сабраць 25 мясцовых жыхароў даволі праблематычна, але можна. Для гэтага трэба актыўная праца з такімі групамі насельніцтва, як прадпрымальнікі, моладзь і, як ні дзіўна, пэнсіянэры. Актывізатарам актыўнасьці ў такіх раёнах будзе чалавек вядомы, адносна незалежны ад уладаў, і які не збаіцца адкрыта заявіць пра сваю пазыцыю.

З чатырох сходаў, што павінны былі прайсьці 2-3 ліпеня, адбыўся толькі адзін, ды й то з пераносам на два дні. У Верхнядзьвінску сабраліся 26 актывістаў партыяў і НДА і абралі дзьвюх дэлегатаў на кангрэс. Інфармацыя аб правядзеньні сходу была распаўсюджаная праз партыйных і грамадзкіх актывістаў. На жаль, ня ўсе прадстаўнікі зь Менску, якія жадалі прысутнічаць, былі на гэтым сходзе. Не спрацавала схема камунікацыяў, калі атрымаліся фактычна выкінутыя абласныя каардынатары "дзесяткі". Зараз схема падкарэктаваная і больш такіх зрываў не паўторыцца. Астатнія раённыя сходы ня былі праведзеныя з розных прычынаў: сабралося толькі 15 чалавек у навальніцу з моцным градам — сход перанесены з падзелам функцыяў і адказнасьці паміж арганізатарамі; мясцовы прадстаўнік спэцслужбаў жорстка "наехаў" на арганізатара сходу — сход павінны адбыцца пазьней; да арганізатараў сходу пачалі тэлефанаваць як прадстаўнікі "дзясяткі" зь Менску, Віцебску, журналісты як недзяржаўных, так і дзяржаўных СМІ з просьбамі падзяліцца інфармацыяй пра месца і час сходу — арганізатары сход адклалі і просяць, каб уся інфармацыя пра сходы атрымлівалася не ў мясцовых арганізатараў, а абласнога каардынатара сходу, каб не было пазачаснай атакі праваахоўных органаў на удзельнікаў сходу.

Сапраўднага аптымізму дадаюць сустрэчы з жыхарамі раёнаў — яны з прыязнасьцю бяруць інфармацыйныя матэрыялы пра працэс абраньня адзінага, цікавяцца асобамі прэтэндэнтаў. "Мы з вамі й за новую Беларусь", — кажа большасьць, і наша задача, каб пра гэта ведала ўсё насельніцтва Беларусі.

**Рыгор КАСТУСЁЎ, старшыня Магілёўскай абласной арганізацыі Партыі БНФ:**

— У нядзелю, трэцяга ліпеня, адбыўся першы сход — у Шклове. У некаторых раёнах сходы мусілі адбыцца раней, але былі перанесеныя, бо існуе рызыка не сабраць кворум. Адкладзеныя сходы ў Асіповічах, Клічаве, некаторых іншых гарадох. Трэба лепей рыхтавацца. Зараз мы над гэтым як раз працуем. Сярод сапраўды дэмакратычных партыяў стасункі ў вобласьці нармалёвыя. Аднак шмат хто зь сябраў партыяў адчувае стомленасьць. Хто-ніхто й баіцца: улады, занепакоеныя тым, што аб'яднаная апазыцыя пачала сур'ёзную справу, робіць захады, каб не дапусьціць пашырэньня нашага ўплыву — праводзяць размовы, бяседы з асобнымі людзямі "ад імя" ўладных структураў і КДБ. Існуюць пагрозы звальненьня з працы. Усё гэта, натуральна, непакоіць нас, як, зрэшты, і мы непакоім уладу. У дадатак да ўсяго хвалююць пэўныя праблемы з выкананьнем агульных дамоўленасьцяў унутры кааліцыі. Я маю на ўвазе абласную арганізацыю ПКБ. Прынамсі, у раённым сходзе ў Шклове прадстаўнікі гэтай партыі ня ўдзельнічалі ўвогуле. Такая ж сытуацыя магчымая ў Быхаве. Пакуль так і ня ўдалося паразумецца, аднак спробаў патлумачыць нашым калегам пра неабходнасьць дамоўленасьцяў, якіх дасягнулі "у цэнтры", мы не кідаем. Галоўная праблема вось у чым: людзі ў рэгіёнах ня ведаюць, навошта ўвогуле праводзіць гэтыя сходы, дзеля чаго яны. Гэта хібы слабой камунікацыі ў нашых партыях. Магчымасьцяў давесьці інфармацыю да шэраговых сяброў партыі ў раённыя цэнтры папросту не хапае. А бяз гэтага вельмі складана — даводзіцца ў кожным раёне ледзьве ня кожнаму тлумачыць, дзеля чаго мы зьбіраемся, і якую справу мы робім. З боку людзей узьнікае шмат пытаньняў. Але гэтыя цяжкасьці вырашальныя. Будзем працаваць. Працэс складаны, але ж ён ідзе. І гэта ўсьцешвае.

**Віктар РАМАНІШКА, старшыня Гомельскай абласной арганізацыі Партыі БНФ:**

— Кааліцыйная праца ў нас у вобласьці вядзецца даўно. Таму, на шчасьце, праблемы паразумецца не існавала ад пачатку. Калі ня ўлічваць сам даволі забюракратызаваны мэханізм вылучэньня адзінага кандыдату, дык і увогуле праблемаў няшмат. Лічыць за такія перашкоды ўладаў у правядзеньні сходаў нават і ня будзем. Ад пачатку, канешне, прыйшлося крышку пахвалявацца, бо ў Сьветлагорску адбыліся прэвэнтыўныя затрыманьні — мяне й сп. Болбаса. Але сход усё роўна адбыўся. Кворум быў. Дэлегатаў абралі. І ўлады хутка скемілі, што змагацца з гэтым яны ня здолеюць. Памяшканьняў, зразумела ж, у іх для нас не знаходзіцца. Даводзіцца праводзіць сходы ў прыватных хатах. У Мазыры нам "падкінулі" дзьвюх п'яных, паўсюль ідуць звычайныя запалохваньні. Пагражаюць пазбаўленьнем працы, адміністратыўнымі справамі. Нічога новага. Адбылося ў вобласьці ужо восем сходаў. Кворум паўсюль зьбіраецца. Нават ў найбольш праблемным Петрыкаве. Што ж да арганізацыі, дык добра тое, што мы — абласныя кіраўнікі розных партыяў — падзялілі адказнасьць, расплянавалі працу, раскінулі накірункі. Кожны адказвае за свой "фронт". І гэта спрацавала. Аднаму было б вельмі цяжка. А так, разам — адчуваецца, што працу рабіць больш проста. Сабраліся разам, вызначылі накірункі, азначылі бліжэйшую пэрспэктыву — і наперад.

# Не паглыбляйце трагедыю!

Юры МЕЛЯШКЕВІЧ,
сакратар Чарнобыльскай камісіі Партыі БНФ

Штогод напрыканцы красавіка дзяржаўная прапаганда шырока асьвятляе неаслабны клопат Аляксандра Лукашэнкі аб забруджаных Чарнобылем тэрыторыях. Падчас гэтых нягеглых PR-кампаніяў спадар Лукашэнка "есьць, п'е, дыхае й пачуваецца цалкам нармалёва". Усё б добра, калі б не шоргат кучкі людзей, якія "спэкулююць на трагедыі ў вузкапалітычных мэтах". Гэта сам Лукашэнка так лічыць. Мы ж лічым інакш. Мы ня думаем, што экалягічная абстаноўка ў прычарнобыльскіх раёнах Беларусі паказвае станоўчую дынаміку. І мэты ў нас ва ўсіх павінны быць там ня вузкапалітычныя, і не шырокапалітычныя. Праблемы трэба вырашаць. Усім. І не штогод, а штодзень.

Прыгадайма, савецкі ўрад намагаўся схаваць маштаб катастрофы. Савецкая дзяржава не дала слушнай і дакладнай мапы радыяцыйнай забруджанасьці тэрыторыяў. І гэтыя мапы былі складзеныя з удзелам грамадзкіх і апазыцыйных арганізацыяў, якія былі заклапочаныя катастрофай. Што ж зараз? Зараз няма арганізаванай працы па чарнобыльскім пытаньні ані дзяржаўных органаў, ані грамадзянскай супольнасьці. Пры тым, што першыя маюць самалёты, гэлікоптэры, іншы транспарт, могуць вазіць за сабой тузін карэспандэнтаў для рэклямнай дэманстрацыі сваёй працы, і, натуральна, маюць сякія-такія сродкі. Праблема палягае яшчэ й у тым, што спроба якой-кольвек арганізаванай працы ўспрымаецца ўладамі як варожая антыдзяржаўная дзейнасьць. Любы чалавек, хто хоча зарганізаваць масавую недзяржаўную працу ў гэтым кірунку, становіцца аб'ектам увагі спэцслужбаў. Між тым, задачы па мінімізацыі наступстваў катастрофы, якой ужо амаль 20 год, стаяць вельмі канкрэтныя. Адтэрміноўка ў іх рэалізацыі ці памылковыя дзеяньні могуць паўплываць на здароў'е, лёсы людзей, краіны. Паўплываць трагічна.

Што рабіць?

**Першае.** Неабходна падаць новыя мапы радыёактыўнага забруджваньня земляў і зрабіць іх даступнымі для кожнага. А таксама — стварыць мапы распаўсюду захворваньняў, зьвязаных з радыяцыяй.

**Другое.** Вызначыць дынаміку самаачышчэньня зямлі ад забруджваньня.

**Трэцяе.** Вызначыць дынаміку росту колькасьці захворваньняў, зьвязаных з Чарнобылем. Да прыкладу, за гады пасьля аварыі штогадовы рост толькі раку шчытападобнай залозы ў Гомельскай вобласьці падвысіўся больш чым у 100 разоў. І працягвае расьці. Не нашмат лепш становішча ў Магілёўскай вобласьці. Нават Віцебская дала павялічэньне гэтага захворваньня ўдвая!

**Чацьвертае.** Інфармацыя па ўсіх праблемах, зьвязаных з катастрофай, павінная быць даступнай у пэрыядычных выданьнях, а не знаходзіцца ў спэцыяльных кнігасховішчах, толькі фармальна не засакрэчаных.

З улікам таго, што колькасьць хворых на анкалягічныя хваробы у зонах радыяцыйнага паражэньня не зьніжаецца, а працягвае расьці, выклікае сумнеў мэтазгоднасьць шэрагу высакакоштавых дзяржаўных праграмаў. У першую чаргу — праграмы мэліярацыі коштам 1,3 трыльёны рублёў (605 мільярдаў даляраў). Засваеньне асноўнай часткі з гэтае гіганцкай сумы плянуецца весьці на Палесьсі, то бок на пацярпелых ад аварыі тэрыторыях. А гэта значыць, што прадукцыя з забруджаных тэрыторыяў трапляе ў гандлёвую сетку, што павялічвае верагоднасьць захворваньняў ня толькі ў традыцыйна неспрыяльных зонах, а й таксама ў Віцебскай і Гарадзенскай абласьцях. Таму праграма мэліярацыі павінная атрымаць як дзяржаўную, гэтак і незалежную экспэртызу. Дарэчы, гэтая праграма атрымала жыцьцё пасьля раптоўнага звальненьня з пасады міністра аховы здароў'я Уладзіслава Астапенкі, аднаго з буйнейшых спэцыялістаў па радыяцыйнай мэдыцыне ў Беларусі, ды прызначэньня на гэтую пасаду Людмілы Пастаялкі. А дзеля ацэнкі праекту неабходнае ўзаемадзеяньне навукоўцаў і мэдыкаў, урады й апазыцыі. Бо праблема агульная. Агульная трагедыя. Агульны боль. Той жа Астапенка здольны ў незалежнай экспэртызе прынесьці больш плёну, чым хто б то ні было з чыноўнікаў міністэрства. Да таго ж ня менш важна даць ацэнку эканамічнай аддачы ад мэліярацыі. Бо, мабыць, больш слушна будзе накіраваць далёка ня лішнія сродкі на больш інтэнсіўнае разьвіцьцё чыстых тэрыторыяў?

Яшчэ адно надзённае пытаньне — міграцыя насельніцтва. Гэта працэс натуральны (з горшых месцаў у больш пэрспэктыўныя). У нас жа, наадварот, уладам карціць засяліць зону забруджваньня. Ніхто ж не заклікае перакрыць доступ фінансаў у вобласьці забруджваньня ці не аказваць дапамогі сацыяльный сфэры. Аднак намагацца штучна засяляць гэтыя раёны — ці то маладымі спэцыялістамі, ці перасяленцамі з-за мяжы — няправільна, шкодна, калі не сказаць злачынна. Перасяленьне ў зону забруджваньня павінна быць (калі ўвогуле павінна) добраахвотным з прадстаўленьнем перасяленцам сапраўднай інфармацыі аб экалёгіі ды здароўі.

Лукашэнка таксама вельмі прагне павялічыць вытворчасьць харчовае прадукцыі на радыяцыйна забруджанай тэрыторыі. Вось гэта ўжо — сапраўднае злачынства. Неабходна наадварот скарачаць харчовую вытворчасьць там. Бо ніякія заняткі спортам ад радыяцыйных хваробаў не абароняць. Нельга рызыкаваць здароўем ды жыцьцямі людзей дзеля сумнеўнага дзяржаўнага прыбытку. Таму сакавіцкае выказваньне Лукашэнкі ў Гомелі, маўляў, ніякі атам па вас не прайшоўся, даравваць нельга. Пройдзе час, будуць новыя прэзыдэнты. Будуць падлічаныя ахвяры. Аднак мы жывем зараз. І ніхто ня мае права праводзіць такі страшэнны экспэрымэнт над такой вялікай колькасьцю людзей.

# К★міс★ры

Юры ГЕМБІЦКІ

Дзяржава адкрыла сэзон паляваньня на прыватныя мэдычныя цэнтры. Прычына простая, як граблі — міністэрства аховы здароўя зьбіраецца адчыняць сыстэму платных унітарных прадпрыемстваў па аказаньні мэдычных паслугаў насельніцтву. Так што зараз ідзе працэс расчышчэньня пляцдарму.

Міністар аховы здароўя, спадарыня Людміла Пастаялка — маці Ірыны Абельскай (пэрсанальнага доктару Аляксандра Лукашэнкі) нядаўна ў парлямэнце падкрэсьліла, што ліцэнзіі анулююцца з-за парушэньня п.п. 17, 19 і 30 палажэньня ўраду Беларусі аб ліцэнзаваньні асобных відаў дзейнасьці, зацьверджанага ў разьвіцьцё дэкрэта А.Лукашэнкі № 17. На нармальную мову гэта перакладаецца прыблізна так: доктар-кардыёляг, які 20 гадоў зьяўляўся загадчыкам кардыялягічнага аддзелу дзяржаўнай клінікі, кандыдат навук, мае вышэйшую катэгорыю па тэрапіі, і толькі першую — па кардыялёгіі. Гэта й ёсьць "грубае парушэньне". Атрымліваецца, ў дзяржаўнай клініцы гэта ж парушэньнем увогуле не зьяўляецца.

**Даведка.** На сёньня ў Беларусі дзейнічае 3 183 ліцэнзіі, якія выдадзеныя міністэрствам на мэдычную дзейнасьць. З пачатку 2005 г. Міністэрства аховы здароўя праверыла больш 500 мэдычных прадпрыемстваў (дзяржаўных і прыватных) Калегія міністэрства анулявала 23 ліцэнзіі на мэдычную дзейнасьць, яшчэ 20 — на фармацэўтычную.

Ліцэнзіі былі ануляваныя для установаў "Інстытут прыгажосьці", «Аквамед», «Медлюкс», «Аптымед», «Экамэдсэрвіс-Інвест», «Нэафарма-М», «Фармліга», «Элексірсэрвіс», "Нардзін", «Фармаркет», «Белфарм», "Эўрамэдплюс", «Фармахім», «Элітмэдтэхніка», "Нардзін" ды інш.

Да парушэньняў (на мове дзяржавы) адносяцца зьмена адраса без унясеньня адпаведных зьменаў і дадаткаў у ліцэнзію; зьмена памяшканьняў ды плошчы; выкарыстаньне мэдычнай тэхнікі, лекаў, мэдычных вырабаў, мэтодыкаў лекаваньня й дыягностыкі, рэалізацыя незарэгістраваных і не дазволеных для выкарыстаньня ў Беларусі лекаў, адсутнасьць у штаце патрэбных спэцыялістаў, якія маюць адпаведную падрыхтоўку, іншыя грубыя парушэньні.

У выніку Калегія міністэрства на паседжаньнях адно за адным прымае рашэньні аб скасаваньні ліцэнзіяў прыватных мэдцэнтраў на ажыцьцяўленьне мэдычнай дзейнасьці. І тлумачыць гэта грубымі парушэньнямі дэкрэта Лукашэнкі № 17 аб ліцэнзаваньні асобных відаў дзейнасьці. Дадамо, што перад гэтым прыватныя мэдычныя цэнтры цягам дзьвюх месяцаў правяраюцца КДК, Міністэрствамі аховы здароўя ды падаткаў і збораў.




Аднак «Экамэдсэрвіс», атрымаўшы загад аб ануляваньні ліцэнзіі, зьвярнуўся ў Вышэйшы гаспадарчы суд, каб абскарэчыць гэтае рашэньне. Тое ж самае зрабіў і "Нардзін". Суд прыпыніў дзеяньне загаду, а таксама — і справу, з мэтай атрыманьня тлумачэньняў ураду аб дзейнасьці пастановы Савету міністраў ад лістападу 2003 году. Цягам усяго гэтага часу "Экамэдсэрвіс" і "Нардзін" будуць працаваць.

Справа тут не ў "Экамэдсэрвісе" ды й не ў "Нардзіне". На пазамінулым тыдні дэпутаты палаты прадстаўнікоў адхілілі новую рэдакцыю закону аб ахове здароўя. Бо, па-першае, ён супярэчыць Канстытуцыі, у якой азначана, што ахова здароў'я ў Беларусі бясплатная. А згодна з праектам закону яна "у тым ліку й бясплатная", г.зн. афіцыйна ўводзіцца платная мэдыцына. Па-другое, з прыняцьцём гэтага законапраекту ў чарговы раз пацярпелі б шматпакутныя прыватныя мэдычныя цэнтры, бо калі згодна з рэдакцыяй дзейнага закону малады доктар пасьля сканчэньня мэдычнага ўнівэрсытэту можа пасьля абавязковых трох год працы ў дзяржаўнай лякарні ісьці на працу ў прыватную, дык распрацаваны міністэрствам Пастаялкі ды ўнесены ў парлямэнт урадам праект дазваляе працаваць ў прыватных мэдычных цэнтрах толькі мэдыкам з першай і вышэйшай катэгорыямі. А першую катэгорыю даюць у лепшым выпадку гадоў праз пяць-восем. Натуральна, камэнтаваць гэта з гледзішча здаровага сэнсу не выпадае. А калі зьвярнуцца да словаў спн. Пастаялкі, адрэсаваных дэпутатам, дык становіцца цалкам зразумелай шалёная атака на "прыватнікаў": у нетрах міністэрства нарадзілася ідэя падзяліць дзяржаўныя лякарні на бюджэтныя (бясплатныя), а таксама на платныя ўнітарныя дзяржаўныя прадпрыемствы, якія будуць прапаноўваць людзям тыя ж паслугі, што зараз прапануюць, прыкладам, у "Экамэдсэрвісе" ці "Нардзіне", то бок масаж, фітнэс, водныя працэдуры, салярый, ды шмат чаго іншага. Апроч уласна якаснага лекаваньня. Нічога дзіўнага — у дзяржавы няма грошай на ўтрыманьне бюджэтнай мэдыцыны. А правесьці мэдычную рэформу — няма гатоўнасьці й жаданьня. Значыць, трэба проста пазбавіць ліцэнзіяў прыватныя установы, набыць (ці проста адабраць) іх шыкоўныя будынкі ("Экамэдсэрвіс", прыкладам, днямі адчыніў новы будынак коштам 8 мільярдаў рублёў і агульнай плошчай 5,3 тысячы кв.мэтраў), і разьмясьціць там тое самае, але ж дзяржаўнае. Ці, на выбар, прапанаваць: "вы нам — будынак, мы вам — спакой". Зрэшты, аналягічныя рэчы адбываюцца цягам апошніх гадоў на страхавым рынку, на рынку вытворчасьці, на рынку транспартных паслугаў (маршрутак) і ўвогуле паўсюль. Тыпова бальшавіцкі падыход. Камісарскі.

# Пачуць glos палякаў

Павал МАЖЭЙКА

Імкненьне уладаў падпарадкаваць сабе Саюз палякаў Беларусі (СПБ) сёньня ўжо нагадвае адкрытае зьнішчэньне арганізацыі. Рэжым адмовіўся прызнаць новаабранае кіраўніцтва арганізацыі, ануляваў усе ягоныя рашэньні і дэманстратыўна падтрымлівае свайго стаўленьніка. Дзейнасьць СПБ паралізаваная. Толькі ў адной Горадні колькасьць допытаў, на якіх за апошнія чатыры месяцы пабывалі сябры Саюза палякаў, перакрочыла ўжо сотню.

Беларускія палякі лічаць, што ўлады ня маюць права ўмешвацца ў дзейнасьць СПБ. Але, менавіта, гэтае імкненьне заставацца незалежным беларускія ўлады і лічаць недаравальнай правінай 25-тысячнага Саюза палякаў Беларусі.

**Рэвалюцыя па-польску**

VI Зьезд Саюза палякаў на Беларусі, які адбыўся 12-13 сакавіка бягучага года, неаднаразова называўся ў прэсе "памаранчавай" рэвалюцыяй у асобна ўзятай арганізацыі.

Паралелі з украінскімі падзеямі праглядаюцца ў самым галоўным - абіраючы новага старшыню арганізацыі, дэлегаты сказалі рашучае "Не!" кандыдату-стаўленьніку ўлады Тадэвушу Кручкоўскаму, які даўно падазраецца у шматлікіх фінансавых махінацыях і сэксуальным дамагальніцтве да студэнткі.

Падрыхтоўка да Зьезду суправаджалася папярэдняй апрацоўкай уладамі дэлегатаў, самым нелаяльным зь іх ствараліся перашкоды ў прыезьдзе на Зьезд. Напярэдадні ўлады арыштавалі на 10 сутак, і тым самым ізалявалі, намесьніка старшыні Саюза Юзафа Пажэцкага, а таксама журналіста Андрэя Пачобута, які асьвятляў у прэсе падзеі вакол СПБ. Нягледзячы на гэткі ціск, большасьць дэлегатаў у дэмакратычных выбарах усё ж адсунула ад кіраўніцтва арганізацыі Кручкоўскага і аддала свае галасы 31-гадовай Анжаліцы Борыс, якая і стала новай старшынькай СПБ.

Для ўладаў гэта быў нечаканы ўдар. Наўрад ці іх скаланула шалёная думка, што са зьменай улады ў Саюзе палякаў, 400-тысячная польская меншасьць ў Беларусі стане ў краіне нейкім каталізатарам агульнанацыянальный рэвалюцыйнасьці. Сярод беларускіх палякаў, на жаль, таксама як і сярод саміх беларусаў, пануе homo soveticus. Хутчэй за ўсё ўлады ўсьвядомілі наступствы, якія можа несьці ці ня першая за апошнія гады памылка ў іх, здавалася б, традыцыйна бясхібным сцэнары — раптам гэтая памылка стане пачаткам ланцужковай рэакцыі? Усё ж выбары прэзыдэнта наперадзе. Памылку трэ было выправіць і "стэрылізаваць" Саюз палякаў, які стаўся прывідам пагрозы.

**За нападам напад**

У траўні Міністэрства юстыцыі дасылае ў Саюз палякаў ліст, зь якога вынікае, што VI Зьезд і ягоныя рашэньні прызнаныя нелегітымнымі. Палякам рэкамэндавана правесьці новы зьезд, а пакуль ён будзе рыхтавацца, кіраваць СПБ павінны былы старшыня Тадэвуш Кручкоўскі. Гэта азначала ануляваньне ўсіх рашэньняў новаабранага кіраўніцтва. Пасады, між іншага, быў пазбаўлены й новы галоўны рэдактар газэты СПБ "Glos znad Niemna" Анджэй Пісальнік. Непрызнаньне Зьезду Анжаліка Борыс назвала імкненьнем "прынізіць і зьнішчыць польскую меншасьць на Беларусі".




Канфлікт набыў міжнародны маштаб, у яго ўмяшаліся дзяржаўныя інстытуцыі як Беларусі, так і Польшчы. Афіцыйная Беларусь заявіла аб умяшальніцтве польскіх дыпляматаў у дзейнасьць грамадзкай арганізацыі й абвясьціла пэрсонай нон-грата Марэка Буцьку, другую па значнасьці асобу амбасады Польшчы. У сваю чаргу, афіцыйная Польшча неаднаразова адназначна заявіла аб поўнай падтрымцы і прызнаньні паўнамоцтваў спн. Борыс.

Беларускае тэлебачаньне адрыгнулася прапагандысцкім фільмам "Аднойчы ў Косава ці хто замовіў Саюз Палякаў?", якім "раскрыла вочы" гледачу на нібы сэпаратысцкія настроі беларускіх палякаў (чытайма: новаабранага кіраўніцтва СПБ).

Анжаліка Борыс мела небагата магчымасьцяў адказаць БТ. У гэты час "Glos znad Niemna" ужо не выходзіў. Гарадзенская друкарня з рознымі адгаворкамі штотыдзень адмаўлялася друкаваць нумар, падрыхтаваны рэдакцыяй пад кіраўніцтвам Анджэя Пісальніка.

Аднак, напачатку чэрвеня падпісчыкі "Glosu" усё ж атрымалі чарговы нумар сваёй газэты - фальшывай. Імкнучыся дыскрэдытаваць кіраўніцтва СПБ і спарадзіць непаразуменьне ў галовах шэраговых сяброў Саюзу, улада пад папулярным брэндам "Glosa znad Niemna" распачала выданьне ўласнага прапагандысцкага лістка. Падобны мэтад, выдаючы польскамоўную прэсу, выкарыстоўвалі ў акупаванай Варшаве фашысты ў часе другой сусьветнай вайны. Варшавякі называлі такія "газэты" "gadzinowkami".

У рэдакцыі сапраўднага "Glosa znad Niemna" гэтыя захады ўладаў палічылі парушэньнем прынцыпаў маралі й чалавечай прыстойнасьці, а таксама законаў Беларусі. Ранкам серады 6 ліпеня пяцёра супрацоўнікаў газэты адважыліся на несанкцыянаваную акцыю пратэсту. З напісаным па-польску транспарантам "Аддайце палякам Glosa znad Niemna!" яны сталі пад будынкам Гарадзенскага выканаўчага камітэту. "Мы пратэстуем супраць захопу ўладай Горадні, а таксама беларускімі спэцслужбамі, адзінай на Беларусі газэты польскай меншасьці". Акцыя ня доўжылася й пяці хвілінаў - заломваючы журналістам рукі больш дзясятка міліцыянтаў вывелі Анджэя Пісальніка, Андрэя Пачобута, Інэс Тодрык, Яна Романа ды Ігара Банцара з пляцу.

Калі й надалей улады будуць выдаваць фальшывы "Glos", сябры Саюзу абяцаюць працягваць пратэсты. Скандал, распачаты беларускімі ўладамі вакол СПБ, цягнецца ўжо чатыры месяцы і, відавочна, сьціхаць не зьбіраецца. Разам з тым, СПБоўцы перакананыя, што вырашыць канфлікт цяпер можна толькі "у вярхах", таму й скіравалі ліст да Аляксандра Лукашэнкі з заклікам "спыніць зьнішчэньне Саюза палякаў".



# Смутак Брытаніі

**Юры ГЕМБІЦКІ**

Брытанія смуткуе. Чатыры выбухі, якія адбыліся ў мінулы чацьвер, 7 ліпеня, амаль аднaчасова, прыкладна праз 50 сэкунд адзін пасьля другога, канчаткова абрушылі спакой у Эўропе. Выбухі гэтыя — чарговая праява страшэннага дзікунства — тэрарыстычнай вайны, якая нікога не абірае й не шкадуе. У выніку сэрыі тэрарыстычных актаў загінулі 52 чалавекі, яшчэ 62 чалавекі знаходзяцца ў клініках, некаторыя ў цяжкім стане. Агулам пацярпелі (апроч тых, хто загінуў) больш 700 чалавек. У знак салідарнасьці з брытанцамі 14 ліпеня на 2 хвіліны спынілі працу жыхары іншых краінаў Эўразьвязу. Начальнік лёнданскай паліцыі Ян Блэр заявіў, што выканаўцы ўсіх чатырох замахаў былі тэрарыстамі-самагубцамі і ўсе яны загінулі.

Выбухі адбыліся ў мінулы чацьвер ранкам у цэнтры брытанскае сталіцы паміж станцыямі мэтро Oldgate East і Liverpool Street, Russel Square і Kings Kross, на станцыі Edgver Road ды ў аўтобусе на Tavistock Square.

Больш за тое, пры аглядзе месцаў тэрактаў паліцыя знайшла ў Лёндане яшчэ 4 бомбы, якія ня выбухнулі.

Адказнасьць за гэтае дзікунства на сабе ўзялі адразу дзьве тэрарыстычныя групоўкі: "Брыгады Абу Хафс аль-Масры", зьвязаная з міжнароднай тэрарыстычнай сеткай "Аль-Каіда", а таксама "Тайная арганізацыя Аль-Каіды ў Эўропе".

У жніўні 2004 г. першая групоўка ўжо брала на сабе адказнасьць за тэракты ў дзьвюх гатэлях у Стамбуле, калі ў выніку выбухаў два чалавекі загінулі. І параненыя былі 11. Міжнародны тэрарыст Абу Хафс аль-Масры быў адным з паплечнікаў Усамы бін Ладэна ды Аймана аз-Завахіры. Лічыцца, што ён загінуў у Афганістане 4 гады таму.

Пасьля выбухаў на вуліцах Лёндану быў спынены аўтамабільны рух, зачыненыя чыгуначныя вакзалы, спынены рух мэтро, у горад былі ўведзеныя рэгулярныя войскі. Усе клінікі перайшлі на надзвычайны рэжым працы.

11 сакавіка 2004 г. нешта падобнае адбылося ў сталіцы Гішпаніі — Мадрыдзе. Тады загінулі больш за 190 чалавек, а каля 1 800 атрымалі розныя пашкоджаньні.

Якраз тымі днямі ў Эдынбурзе (Шатляндыя) праходзіў саміт "вялікай васьмёркі". Брытанскі прэм'ер вымушаны быў тэрмінова выляцець у Лёндан.

Трагедыя паглыбляецца тым, што за дзень да выбухаў у сераду Лёндан сьвяткаваў выбар Міжнароднага Алімпійскага камітэту, які на чарговай, 117-й сэсіі ў Сінгапуры менавіта Лёндану аддаў права прыняць Алімпійскія гульні 2012 году. Тысячы сабраных на Трафальгарскім пляцы ў адзіным парыве віталі рашэньне МАК, бо супернікамі ў Лёндану былі не абы-якія Парыж (Лёндан атрымаў над ім перавагу ўсяго ў чатыры галасы), Масква, Нью-Ёрк, Мадрыд. Брытанская сталіца стане першым горадам у сьвеце, які прыме Алімпіяду трэці раз. Алімпійскія гульні праходзілі ў Лёндане ў 1908 і 1948 гадох. Зрэшты, пасьля выбухаў кіраўніцтва МАК на чале з Жакам Раге падкрэсьліла, што выбар сталіцы АГ-2012 ня будзе перагледжаны.

*Мы не дазволім гвалту зьмяніць наш вобраз жыцьця й нашыя каштоўнасьці*

**Тоні БЛЭР, праэм'ер-міністар Вялікай Брытаніі, 8 ліпеня 2005 г.**

*Гэта — подлая помста Вялікай Брытаніі за яе пасьлядоўную пазыцыю ў барацьбе з тэрарызмам. Мы выказалі спачуваньні нашай саюзнай партыі — Кансэрватыўнай партыі Брытаніі ды яе лідэру Майклу Гаўэрду, амбасадзе Вялікай Брытаніі ў Беларусі. Брытанія дакладна адрозьнівае паняцьці тэрарызму й нацыянальна-вызвольнага руху. Брытанія перадолела свой колішні постымперскі сындром. Іхная веліч у тым, што гэта — адна са старэйшых, найбольш паважаных дэмакратыяў у сьвеце. Мы салідарныя зь імі ў яе пасьлядоўнай барацьбе з тэрарызмам, бо мы ёсьць дзеці адной эўраатлянтычнай цывілізацыі. Брытанія не зламаецца пад націскам тэрору.*

**Вінцук ВЯЧОРКА, старшыня Партыі БНФ, 12 ліпеня 2005 г.**

*...Я блукаў па Лёндане, заходзіў у пабы й крамы — і чагосьці там не знаходзіў. Чагосьці ненамацвальнага. І, урэшце, я зразумеў. Там няма нянавісьці. Такой звыклай, усеагульнай і беспрычыннай, абавязковай і незаўважнай, якая нібы працяла нашую плоць і кроў. Звычайна ў такіх развагах баісься заходзіць далёка, каб не будзіць ліха, каб не назваць таго, чаго не павінна быць, і што магло б адно ад такіх развагаў матэрыялізавацца. Словам, каб не сурочыць...*

**Сяргей ДУБАВЕЦ, "Вострая брама", "Радыё Свабода", этэр 5 красавіка 1998 г.**

# Яго пазыцыя — апазыцыя

21 чэрвеня аднаму з самых слынных і вядомых фронтаўцаў — **Валянціну Голубеву** — спаўняецца 50 гадоў.

Валянцін Голубеў нарадзіўся 21 чэрвеня 1955 году ў Крывым Розе ва Ўкраіне. Скончыў БДУ, гісторык, выкладчык гісторыі ды грамадзтвазнаўства. Кандыдат гістарычных навук, дацэнт. Тэма дысэртацыі: "Землеўладаньне ды землекарыстаньне сялянаў Беларусі ў XVI-XVIII стст.». Працаваў у будтрэсьце № 20 ў Сьветлагорску (плітачнікам-абліцоўшчыкам-мазаічнікам). Пасьля службы ў арміі ды вучобы — старэйшы лябарант, асьпірант, малодшы навуковы супрацоўнік Інстытуту гісторыі Акадэміі навук Беларусі. Дэпутат Вярхоўнага савету (1990 — 1995). У 1991 — 1995 — сакратар камісіі па міжнародных справах ды зьнешнеэканамічных сувязях ВС. Удзельнічаў у галадоўцы групы дэпутатаў, якая была прадпрынятая ў знак пратэсту супраць травеньскага рэфэрэндуму 1995 г. Сябра БНФ з 1988 году. У 1991 — 1995 — намесьнік старшыні БНФ "Адраджэньне", старшыня Менскай гарадзкой арганізацыі БНФ. Сустаршыня грамадзкага навуковааналітычнага цэнтра "Беларуская пэрспэктыва" (1995 — 1999).

Валянцін Голубеў — адзін з буйнейшых ў краіне спэцыялістаў па аграрнай гісторыі. Яго навуковыя працы распавядаюць пра валочныя памеры, у прыватнасьці, "Сялянскае землеўладаньне і землекарыстаньне на Беларусі XVI-XVIII стст". - Мн., 1992. Але таксама ў яго шмат агульнагістарычных працаў: "Ці ведаеце вы гісторыю сваёй краіны?" - Мн., 1994 (у суаўтарстве); Belarus in the Context of Times and Politics. Stockholm, - 1997 (у суаўтарстве з Саньнікавым); «Беларускі мэнталітэт» як фактар фармаваньня грамадзянскай супольнасьці // Belarus Monitor. Спэцыяльны выпуск: Дэмакратычныя працэсы ў Беларусі:асноўныя тэндэнцыі ды супярэчнасьці" — Мн., 1998. Ён шмат выступаў у пэрыядычным друку па навуковых, грамадзка-палітычных праблемах, а таксама пытаньнях зьнешнепалітычнай дзейнасьці Рэспублікі Беларусь.



Увесь час існаваньня сп. Голубева ў БНФ (а Голубеў і БНФ — рэчы непарыўна зьвязаныя) яго пазыцыяй заўсёды была апазыцыя. І ў палітыцы, і па жыцьці. Ад пачатку існаваньня БНФ, калі ён апанаваў сп. Пазьняку, і дагэтуль. Але ў Голубева ёсьць рэдкая для палітыкаў якасьць: ён — канструктыўная апазыцыя. Гэта значыць, ён заўсёды прапануе выйсьце. Гэты чалавек з гучным голасам і добрымі манэрамі заўсёды спрачаецца з апанэнтам і ў абсалютнай бальшыні выпадкаў пераконвае суразмоўцу. Ён — выдатны прамоўца. Сп. Голубеў ўспрымаецца заўсёды ня йнакш, як зь мікрафонам ў руках, бо яго апантанасьць, дасьведчанасьць і аратарскі талент ёсьць той рэдкай сумесьсю якая дазваляе пераконваць нават самых зацятых супернікаў. Спадар Валянцін любіць і ўмее насіць прыгожыя строі. Ён падабаецца жанчынам (і любіць ім падабацца). Ён — прыгожы чалавек. У палітыцы й па жыцьці.

Сп. Голубеў — паважаны чалавек. Яго паважаюць нават яго ворагі. Такія, як сумнавядомы Цесавец, былы дэпутат, які кіраваў апэрацыяй па зьбіцьці дэпутатаў парлямэнту 12 красавіка 1995 году. Ён, праўда, Голубева ня любіць. Бо той назаўтра пасьля трагедыі парлямэнтарызму ў Беларусі доўгі час ганяўся за ім па Авальнай залі, і, калі б дагнаў, мала б Цесаўцу не падалося. І Цесавец гэта ведаў. Бо Голубеў — моцны і прынцыповы чалавек. Ня толькі ў палітыцы, але й па жыцьці.

Прыгадаем такі выпадак. Калі Голубеў прамаўляў перад рабочай аўдыторыяй, некалькі чалавек пасьля прамовы падыходзілі да перасовачнай кнігарні, і пыталіся кнігі Голубева. Ім казалі: "Кніга ёсьць, але яна спэцыяльная, пра аграрную рэформу. Рабочыя адказвалі: "Мы разьбярэмся, не дурней за цябе. Кнігу прыстойнага чалавека пагартаем". І сапраўды, за што б Голубеў ні браўся, а ён, апроч іншага — да апошняга часу кіраўнік таварыства філяматаў, выкладчык Народнага ўнівэрсытэту, ён паўсюль — шаноўны ўсімі. Бо Голубеў — прыстойны чалавек. Ня толькі ў палітыцы, але й па жыцьці.

НавінЫ БНФ

№6(84), 15 ліпеня 2005 г., наклад 299 ас.

**E-mail:** pbnf@pbnf.org
**Сайт:** http://www.pbnf.org
**Адрас для ліставаньня:** 220005, Менск, вул. Варвашэні 8, Сядзіба БНФ

**Галоўны рэдактар:** Юры Гембіцкі
**Выпускны рэдактар:** Юры Сідун

Распаўсюджваецца бясплатна на правах унутранай дакумэнтацыі